

# НАВІНЫ З РОДНАЕ СЬВЯТЫНІ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

+ ВЕСТКІ З ЖЫЦЬЦЯ ПАРАХВІІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВЯТОГА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА +
401 ATLANTIC AVENUE, BROOKLYN, N.Y. 11217-1702

ГОД 4 | ВЯСНА - ЛЕТА 2004 | № 1/6

## НАШ НОВЫ АРХІПАСТЫР

Нядаўна ўзноў выявілася Божая ласка да нашае Сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й да нашага народу: мы займелі новага архіпастыра ў асобе Я.М. Звышасьвячанага япіскапа Васіля.

Уладыка Васіль прылецеў у ЗША самалётам зь Беларусі 26-га травеня г.г., дзе яго на лётаве ў Нуарку сустрэлі з кветкамі прадстаўнікі Кансысторыі й парахвіяў БАПЦ у Бруклíне, Н. Ё. ды Гайлэнд Парку, Н.Дж.

Адтуль Уладыка накіраваўся ў Гайлэнд Парк, Н.Дж., дзе правіў Божыя Службы ў дзьве наступныя нядзелі, а адтуль пераехаў служыць далей у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Неўзабаве ён таксама наведае парахвію Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта й вернікаў БАПЦ у іншых беларускіх асяродках у Канадзе.

Я.М. Звышасьвячаны Япіскап Васіль (у сьвеце Віктар Касьцюк) нарадзіўся 11-га верасьня 1971-га году ў Пінску.

У 1992-м годзе, ідучы за Божым клічам і наказам ягонае душы, малады Віктар Касьцюк пачаў навуку ў Менскай Духоўнай Сэмінарыі ў Жыраве (Жыровічах), якую ў 1995-м г. скончыў із ступеняй бакалаўра багаведы (багаслоўя).

Усьлед, ад 1995-га да 1999-га году вучыўся ў Маскоўскай Духоўнай Акадэміі, пасьля сканчэньня якое, за працу "Гісторыя Пінскае Япархіі (1921-1944 г.г.)", атрымаў ступень кандыдата багаведы.

У студзені 1999-га году ён прыйняў манаскі пострыг зь імём Васіль, а ў красавіку таго-ж году быў усьвячаны на ерадыякана, ды ў ліпені прызначаны на выкладчыка літургікі ў Менскай Духоўнай Акадэміі й Сэмінарыі ў Жыраве.

Пасьля году працы выкладчыкам у жахлівых духовых і матэрыяльных умовах, ня змогшы, дзеля антыбеларускага настаўленьня Маскоўскае герархіі, абараніць падрыхтаваную ім на атрыманьне дактарату дысэртацыю "Гісторыя Праваслаўя на Беларускім Палесьсі (X-XX ст. ст.)" а. ерадыякан Васіль пакінуў Жырава й вярнуўся ў родны Пінск.



Я.М. ЗВЫШАСЬВЯЧАНЫ ВАСІЛЬ
Япіскап Бруклінскі й Баранавіцкі

Не жадаючы заставацца ў Маскоўскім Патрыярхаце ён неўзабаве наладзіў лучнасьць зь кіраўніцтвам БАПЦ, на запрашэньне якога прыехаўшы летась у ЗША, праз тры месяцы знаёміўся з жыцьцём БАПЦ у замежжы.

У выніку азнаямленьня ды з патрэбы новага япіскапа на дапамогу, а з часам і зьмену ў паважным ужо веку Я.М. Мітрапаліту Ізяславу, сам Першагерарх і Рада БАПЦ зьвярнуліся да Галавы Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Блажэньнейшага Мітрапаліта Мяфодзія з просьбай усьвяціць айца Васіля Касьцюка на япіскапа БАПЦ.

Просьба БАПЦ была сустрэтая прыхільна й, пасьля атрыманьня а. Васілём ад Маскоўскага Экзархату на Беларусі дазволу на пераход у іншую япархію, прыйнятая да выкананьня.

У выніку, у нядзелю, 7-га сакавіка г.г., Я.М. Мітрапаліт УАПЦ Мяфодзі ўсьвяціў а. Васіля ў сьвятарскі стан ды ў канцы Сьв. Літургіі ўзвысіў у ступень ігумена, а пасьля архімандрыта.

Сьледам за гэтым, у сыботу, 13-га сакавіка г.г., на ўсяночным часаваньні адбылося названьне архімандрыта Васіля япіскапам Бруклінскім і Баранавіцкім БАПЦ.

Урэшце, у сыботу, 20-га сакавіка г.г., Я.М. Блажэньнейшы Мітрапаліт Мяфодзі й архіяпіскап Вінніцкі Раман, ды япіскап Чаркаскі Якаў усьвяцілі архімандрыта Васіля ў япіскапскую годнасьць.

Гэтак пры кіраўніцтве БАПЦ стаў малады беларускі патрыёт, што зраньня ў ягоным жыцьці прысьвяціў сябе на службу Богу й свайму народу, ды здабыў ужо паважныя асягненьні ў дасьледаваньні гісторыі Праваслаўя на Беларусі, стаўшы аўтарам, ці рэдактарам 6-ці кнігаў і каля 50-цёх артыкулаў на гэтую й іншыя рэлігійныя тэмы.

Падтрымайма-ж усе нашага новага архіпастыра й Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, ды імкнемся разам да Ейнага ўзнаўленьня на Бацькаўшчыне, што стане гваранцыяй запраўднае дзяржаўнае незалежнасьці!

## ЗЬМЕНА Ў КІРАЎНІЦТВЕ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

З Божае волі час зьмяняе ўсё на сьвеце, у тым ліку й у людзкім жыцьці. Не абмінаюць гэтыя зьмены й нашага царкоўнага жыцьця.

Пакрысе час, ці йнакш век, пазначыўся й на здароўі, ды сілах Першагерарха нашае Царквы, Я. М. Мітрапаліта Ізяслава.

Урэшце, пару год назад, дзеля неабходнасьці дапамогі яму ў жыцьцёвых патрэбах й нястачы ў нас манастыра, дзе гэткай дапамогай маглі-б служыць манахі, давялося шукаць прытулку ў прыватнай апякунчай установе.

Мінулай восеняй там з Уладыкам здарыўся нешчасьлівы выпадак, у выніку якога спатрэбілася рабіць апэрацыю, каб зьмяніць зламаны клуб.

Апэрацыя, нажаль, не вярнула яму змогі хадзіць і, паводле штатных вымогаў, ён быў накіраваны ў апякунчую ўстанову з 24-х гадзіннай абслугай.

Дапушчаючы гэткую бяду, Уладыка Ізяслаў, загадзя шукаў сабе памочніка, а з часам і заступніка.

З гэтай мэтай была наладжаная лучнасьць з а. ерадыяканам Васілём Касьцюком у Пінску, пасьля лістоўнага й тэлефоннага азнаямленьня зь якім, ён быў запрошаны на адвед у ЗША.

Падчас гэтага адведу была прыйнятая пастанова хіратанісаваць а. Васіля на япіскапа БАПЦ і асягнутая дамоўленасьць з Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою гэтую хіратонію выканаць.

Гэткім чынам, 20-га сакавіка 2004-га году, а. Васіль Касьцюк быў Мітрапалітам і двама япіскапамі УАПЦ у Тарнопальскім Катэдральным Саборы ўсьвячаны ў годнасьць япіскапа Бруклінскага й Баранавіцкага БАПЦ.

26-га травеня г.г. Я.М. Япіскап Васіль прылецеў у ЗША й неўзабаве сустрэўся зь Я.М. Мітрапалітам Ізяславам, які выказаў навагу перадаць ягоныя абавязкі малодшаму герарху.

Згодна з гэтай навагай, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў 12-га чырвеня г.г. падпісаў грамату, якою перадаў свае абавязкі Я.М. Япіскапу Васілю й прызначыў яго сьцеражам мітрапалічага пасаду, ды адміністратарам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, пакуль ня будзе абраны наступны першагерарх на агульнацаркоўным саборы.

У той самы дзень Рада БАПЦ на паседжаньні ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прызначэньне Я.М. Япіскапа Васіля часовым сьцеражам мітрапалічага пасаду й адміністратарам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы зацьвердзіла й пастанавіла склікаць агульнацаркоўны сабор БАПЦ у працягу году.

Разам з гэтым Рада БАПЦ выказала Я.М. Мітрапаліту Ізяславу падзяку за ягоную дзейнасьць на карысьць БАПЦ і ўхваліла ўшаноўваць яго як пачэснага першагерарха.

Вітаючы Я.М. Уладыку Васіля з прызначэньнем на высокае й адказнае становішча, мы заклікаем вернікаў БАПЦ й нашае грамадзтва падтрымоўваць ягоную дзейнасьць духова й матэрыяльна.

## СПРАВАЗДАЧНА-ПЕРАВЫБАРНЫ СХОД ПАРХВІІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

У нядзелю, 9-га травеня г.г., пасьля Сьв. Літургіі ў парахвіяльнай залі адбыўся штодвохгадовы Справаздачна-Перавыбарны Сход Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Сход пачаў малітвай а. Ігар Якунін, усьлед за чым старшыня Парахвіяльнае Рады, др. Расьціслаў Гарошка, прывітаў прысутных парахвіянаў і запрапанаваў выбраць прэзыдыюм сходу.

У прэзыдыюм былі выбраныя: сп. Юры Чарнышоў - старшынём і сп. Юры Васілеўскі - сакратаром.

Усьлед было ўстаноўлена, што на сходзе прысутная асабіста й праз упаўнаважаньні большасьць парахвіянаў і гэткім чынам ён правамоцны.

Пасьля гэтага пачаліся справаздачы кіраўнічых сяброў Парахвіяльнае Рады.

Старшыня Рады, др. Расьціслаў Гарошка, у ягонай справаздачы сказаў, што парахвіяльнае жыцьцё праз два мінулыя гады йшло жвава й сябры Рады, разам з часткай парахвіянаў уклалі шмат працы на утрыманьне гэтага жыцьця й аднаўленьне будынку.

Аднаўленьне, ці рамонт царкоўнага будынку, нажаль, і далей застаецца адной з найбольшых цяжкасьцяў у дзейнасьці Парахвіяльнае Рады, ды ўсьцяж патрабуе вялікіх выдаткаў, асабліва цяпер, калі пачалася зьмена вокнаў і на чарзе стаіць заканчэньне адновы іканастасу й царкоўнага нутра.

Дазнаньні папярэдніх год паказалі, аднак, што парахвія здольная справіцца йз сталымі перад ёю заданьнямі й яна зь імі справіцца.

Думку старшыні пацьвердзіў скарбнік Рады, сп. Віталь Міхноўскі, што ў фінансавай інфармацыі прадставіў рост прыбыткаў у парахвіяльнай касе й нават невялікі запас, што дазволіць на наступную частку рамонту.

Сакратар Рады, сп. Барыс Данілюк, сказаў, што апрача парахвільнае канцылярыі, ён складаў і рассылаў бюлетэнь "Навіны з Роднае Сьвятыні", ды часапіс "Царкоўны Пасланец" і царкоўны каляндар.

Усьлед празь дзейнасьць Сястрынства паведаміла старшэйшая ў ім сястра, сп-ня Зоя Вашкевіч, дадаўшы, што дзякуючы прыбытку з пачастункаў, Сястрынства перадало ў парахвіяльную касу, ці выдала на царкоўныя патрэбы 3,000.00 дал.

Пасьля гэтага, старшыня Кантрольнае Камісыі, сп-ня Валянтына Балашчанка, сьцьвердзіла, што фінансавае справаводзтва Парахвіяльнае Рады было ўтрыманае ўва ўзорным парадку й запрапанавала дзейнасьць Парахвіяльнае Рады ўхваліць.

Сход гэтую прапанову разам з падзякай аднагалосна прыйняў і зацьвердзіў.

На наступныя два гады ў Парахвіяльную Раду былі выбраныя: Расьціслаў Гарошка, Барыс Данілюк, Юры Чарнышоў, Юры Васілеўскі, Юры Касьцюкевіч, Віталь Міхноўскі, Сяргей Капытка, Анатоль Колбун, Андрэй Падлескі й Аляксандра Шчолакава.

У Кантрольную Камісыю ўвайшлі: сп-ні Валянтына Балашчанка й Надзея Кірсон, ды сп. Юры Зэкаў.

# З ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ

Пасьля таго як зьявіўся папярэдні нумар "Навінаў з Роднае Сьвятыні", жыцьцё нашае парахвіі йшло далей ягоным даволі бадзёрым тэмпам.

Адправы адбываліся ў кожную нядзелю й у большыя сьвяты, а пасьля іх у парахвіяльнай залі маленькі нікаў заўсёды чакаў кубак кавы зь печывам, пры якіх ішлі гутаркі праз надзённыя справы.

За гэтую выгаду й прыемнасьць вялікая падзяка сп-ням Марыі Данілюк і Ганьне Войтанка.



Частка ўдзельнікаў сустрэчы Ўладыкі Васіля

Ад пачатку верасьня да пачатку сьнежня 2003-га г. парахвія гасьціла тады яшчэ а. ерадыякана, а сёньня ўжо Уладыку Васіля, што быў прыехаўшы зь Беларусі, каб пазнаёміцца з жыцьцём БАПЦ.

Хутка-ж пасьля ўдалага 3-га Беларускага Фэстывалю ў канцы леташняга верасьня, у нядзелю, 19-га кастрычніка, Сястрынства зладзіла пачастунак на адзначэньне Пакроваў і ўгодкаў нараджэньня а. Ігара, якому была выказаная глыбокая падзяка за ягоную ахвярную сьвятарскую службу й працу пры аднаўленьні будынку, ды падараваны букет кветак.

За гэты, як і за ўсе далейшыя пачастункі галоўная ды найбольшая падзяка сп-тву Зоі ды Міколу Вашкевічам, а іхным памочніцам мы пайменна дзякуем у канцы гэтае зацемкі.

У нядзелю-ж, 9-га лістапапада, выпала сумная дата - 40 дзён ад сьмерці былога кіраўніка нашае парахвіі й доўгагадовага сакратара Кансысторыі БАПЦ а. пратапрасьвіцера Васіля Кендыша.

З гэтае нагоды пасьля Сьв. Літургіі ў прысутнасьці ягонае сям'і была адпраўленая паніхіда ды ўсьлед у парахвіяльнай залі Сястрынства падрыхтавала успомны стол, за якім добрымі словамі былі адзначаныя заслугі нябожчыка перад БАПЦ і Беларускім народам.

У нядзелю, 23-га-ж лістапада, якраз у дзень 60-х угодкаў сужэнства сп-ва Барыса й Марыі Данілюкоў, Парахвіяльная Рада й Сястрынства ўшанавалі іх за іхную, больш як 50-ці гадовую ахвярную працу на дабро парахвіі, асабліва багатым пачастункам, на які зыйшлася большая як звычайна колькасьць парахвіянаў.

Юбілярам, як ад парахвіі, гэтак і ад колькі пасобных парахвіянаў былі падараваныя букеты кветак і выказаныя падзякі за іхную дзейнасьць, ды пажаданьні добрага здароўя на прадаўжэньне гэтае дзейнасьці праз шмат яшчэ год.

У нядзелю, 30-га лістапада, пасьля Сьв. Літургіі, Нью Ёркскі Адзьдзел БАЗА ладзіў у парахвіяльнай залі сустрэчу з дырэктарам нядаўна тады зачыненага лукашэнкавым рэжымам Беларускага Ліцэю ў Менску, сп. Уладзімерам Коласам.

Сп. Колас прадставіў сытуацыю ў якой апынуліся у выніку ўрадавага бяспраўя вучні ліцэю й іхную навагу працягваць навуку, ды заклікаў прысутных падтрымаць гэтую навагу грашыма.

На ягоны заклік частка прысутных забавязалася складацца на падтрыманьне ліцэю да канца школьнага году.

На пачатку сьнежня амэрыканская арганізацыя, што дбае праз палепшаньне часткі Брукліну каля нашага сабору, паставіла, як і папярэднімі гадамі, у прысаборным гародчыку даволі вялікую ялінку.

У чацьвер, 4-га сьнежня, адбылося ўрачыстае запальваньне гэтае ялінкі, а пасьля пачастунак і гульні для дзяцей пры ялінцы ўжо ў парахвіяльнай залі.

31-га сьнежня Нью Ёркскі Адзьдзел БАЗА наймаў парахвіяльную залю на сустрэчу новага, 2004-га году, што была, як кажуць, людная й удалая.

Хрыстовае Нараджэньне выпала, як ведама, у сераду, дык з увагі на тое, што амаль усе нашыя парахвіяне муселі працаваць, як на конадзень, гэтак і на самое сьвята, у гэтыя дні былі адпраўленыя Божыя Службы, а г.зв. "куцьці" зладзіць не ўдалося.

Дзякуючы, аднак, сп-ні Надзеі Кірсон прысутныя на адп равах м аленькікі змаг лі пасьля ска штаваць смачна прыгатаваную ёю традыцыйную куцьцю.

Затое ў нядзелю, 11-га студзеня 2004-га г., пасьля Сьв. Літургіі Сятрынства зладзіла шчодрае застольле, на якім ладная грамада нашых парахвіянаў і гасьцей, пасьпеўваючы калядкі й іншыя ўлюбаваныя беларускія песьні, прыемна правяла пры запаленай ялінцы колькі гадзінаў.

Радасна спатыканым госьцям на гэтым застольлі быў наш слаўны мастак і беларускі дзеяч з Польшчы, сп. Лявон Тарасевіч, што апавёў празь беларускае жыцьцё ў Беласточчыне ды выставу ягоных твораў, што неўзабаве адчынілася ў Нью Ёрку.

Насталы пасьля Каляд мясаед сёлета ня быў доўгі й Вялікі Пост набліжыўся вельмі хутка, дык у Скаромную нядзелю, 15-га лютага, што супала з Грамніцамі, Парахвіяльная Рада й Сястрынства зладзілі запускі з багатым пачастункам, які прайшоў нятолькі пад сьпевы родных песьняў, але й скончыўся танцамі.

У Вялікім Посьце, пэўна-ж, ніякіх тавары скіх урачыстасьцяў ня было, апрача адзначэньня 86-г угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці БНР, якое ладзілі Нью Ёркская й Галоўная Управы БАЗА ў нядзе-

## З ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЦЯ (Працяг)

лю, 28-га сакавіка, у нашай парахвіяльнай залі.

З гэтае нагоды да нас завітала частка парахвіі з Гайлэнд Парку, Н.Дж., на чале зь ейным пастырам, а. Вячаславам Логіным, зь якім а. Ігар адслужыў Сьв. Літургію й прынагодны малебен.

Праз грамадзкае сьвяткаваньне, што пасьля адправаў адбылося ў поўнай удзельнікаў парахвіяльнай залі, можна прачытаць у газэце "Беларус".

Тыдзень пазьней настала нядзеля ўспаміну Госпадавага Уеханьня ў Ярузалім, ці Вербавая, на ўрачыстай адправе ў якую а. Ігар асьвяціў прыгатаваныя сп-няй Марыяй Данілюк вербы.

У Цярпенным тыдні былі належныя вечаровыя адправы ў Чысты чацьвер і Вялікую пятніцу.

У Вялікую пятніцу й сыботу прыемна было бачыць сярод царквы прыгожа прыбраны кветкамі Госпадаў гроб, праз што парупеліся сп-ні Ганна Войтанка й Марыя Данілюк.


На сустрэчы Ўладыкі Васіля (зьлева направа): сп. Зянон Пазьняк, Уладыка Васіль. а. Ігар Якунін, сп. Антон Шукелойць.

Урэшце настаў і Вялікдзень - Вялікодныя адправы пачаліся паўночніцай і крыжным ісьцежам, ды скончыліся Сьв. Літургіяй і асьвячэньнем пасхаў.

Урачыстасьць адправаў уздымаў добры голас а. Ігара й зладнае пяяньне хору пад кіраўніцтвам сп-ні Ліды Кано.

Пасьля адправаў немалая частка маленьнікаў, паводле ўжо колькігадовага звычаю ў нашай парахвіі, засела разгавецца за багаты сьвяточны стол.

Падмацаваўшыся-ж крыху смачнымі сьвяточнымі стравамі, бяседнікі, як у нас ужо вядзецца, пачалі сьпяваць родныя песьні, якія, граючы на акардэоне, засьпеўвала сп-ня Раіса Пакроўная.

У сыботу, 8-га травеня, парахвіяльную залю наймала на танцаўную вечарыну мяйсцовая амэрыканская арганізацыя.

У нядзелю, 9-га травеня, адбыўся Справаздачна-Перавыбарны Сход парахвіі, аб чым дакладней напісана ў асобнай зацемцы.

Будзённымі днямі ў пасьлявялікодную пару сп. Мікалай Вашкевіч, зрабіўшы ўздоўж плоту ў гародчыку перад царквою дадатковыя да дасюлешніхградкі, пасадзіў на ўсіх іх ахвяраваныя сп-няй Раісай Пакроўнай кветкі.

Праз гэта наш царкоўны гародчык стаў прыгажэй, як калі, і квартал, дзе нашая царква, узноў атрымаў адзнаку ў конкурсе на найзелянейшы квартал у Брукліне.

Поў месяца пасьля сходу, 26-га травеня, прыбылага ў ЗША Уладыку Васіля на лётаве ў Нуарку, Н.Дж. вітаў ад нашае парахвіі сакратар Парахвіяльнае Рады сп. Барыс Данілюк.

Нажаль, памешканьне Ўладыку ў нашым саборы ня было яшчэ гатовае й таму ён затрымаўся, ды празь дзьве нядзелі правіў Божыя Службы ў Гайлэнд Парку, Н.Дж.

Тымчасам, 30 травеня, выпала Сёмуха й ува ўмаенай зеляняй нашай царкве, паводле ўставу а. Ігар адправіў урачыстую Сьв. Літургію ды ўсьлед адумысловую вячорню.

Сьледам Сястрынства прыгатавала ў парахвіяльнай залі сьвяточны пачастунак, што, як звычайна, закончыўся сьпевамі, якія вялі сп-ні Ліда Кано, Рыма Пракопчык і, граючы на акардэоне, сп-ня Раіса Пакроўная.

У сыботу, 12-га чырвеня, Нью Ёркскі Адзьдзел БАЗА ладзіў у парахвіяльнай залі застольле ў чэсьць 60-х угодкаў нараджэньня выдатнага беларускага палітычнага дзеяча, сп. Зянона Пазьняка, на якое зыйшлася вялікая грамада ягоных паважальнікаў.

Урэшце, у нядзелю Сьвятых Беларускае Зямлі й Айцоў Аўтакефаліі, 13-га чырвеня, нашая парахвія мела радасьць вітаць нашага новага Уладыку й узноў памаліцца на ўрачыстай архірэйскай Божай Службе, якую ён адправіў з а. Ігарам.

Пасьля адправы, у парахвіяльнай залі Сястрынства прыгатавала багаты стол, за якім, разам з ладнай грамадою вернікаў, Уладыку Васіля ад парахвіі вітаў старшыня Парахвіяльнае Рады, др. Расьціслаў Гарошка, і Галава Сястрынства, сп-ня Зоя Вашкевіч, а ад беларускага грамадзтва старшыня Галоўнае Управы БАЗА, сп. Антон Шукелойць ды сп. Зянон Пазьняк.

Уладыка Васіль у кароткім слове падзякаваў за цёплае прыймо й падкрэсьліўшы значаньне Царквы ў людзкім, як асабістым, гэтак і нацыянальным жыцьці, заклікаў прысутных і ўсіх беларусаў падтрымоўваць БАПЦ, якой ён, як і ягоныя папярэднікі прысьвяціў сваё жыцьцё.

Падмацаваўшыся смачным і шчодрым пачастункам, удзельнікі бяседы ўсьлед за сп-нямі Лідай Кано, Рымай Пракопчык і Раісай Пакроўнай з акардэонам пачалі пяяць адну за адной нашыя песьні.

Песьні й гутаркі трывалі амаль да вечара й падчас іх было прыемна заўважыць, што сп. Зянон Пазьняк, у дадатак да ягоных іншых здольнасьцяў, таксама й добры сьпявак.

На заканчэньне гэтае зацемкі трэба яшчэ падзякаваць спадарыням, што памагалі ў працы Сястрынства, а гэта сп-ні Алена Бараноўская, Валянтына Бондарцава, Ганна Войтанка, Марыя Данілюк, Надзея Кірсон, Аляксандра Лістоўская, Галіна Шайдур і Аляксандра Шчолакава.

# І БОГУ НА ЎСПАДОБУ Й ПЕРАД ВАЧМІ НА АЗДОБУ

Як хацелася-б, Дарагі Чытачу, каб зьмешчаны на гэтай бачыне здымак быў у запраўдных колерах і Вы змаглі пабачыць як прыгожы кветны гародчык перад нашай царквою.




Не дарма-ж за гэты гародчык і атрымаў квартал, дзе нашая царква, другое мейсца на ладжаным Бруклінскім Батанічным Садам конкурсе на найзелянейшы квартал у месьце, праз што пісалі мяйсцовыя амэрыканскія газэты.

Лепш, аднак, было-б падзівіцца на гэты гародчык на свае вочы, а калі нядзелька, дык зайсьці ў царкву ды памаліцца на адправе, а затым пагутарыць зь землякамі пры каве ў парахвіяльнай залі.

У гутарцы-ж, пэўна, і даведаліся-б, што ў нашай прыгожай парахвіяльнай залі, апрача сьценаў ды столі, усё зробленае рукамі нашых парахвіянаў.

Але! І падлога, і новыя вокны, і добра абсталяваная кухня, ды пры залі прыгожа выканчаны пакойчык з шыкоўнымі полкамі да столі, на якіх стаіць каля 2-х тысячаў кнігаў, што датычаць Беларусі ды дзе месьціцца парахвіяльная канцылярыя, а разам цісьнецца й сьвятар, часам з "часовымі" падсуседамі.

Да гэтага-ж і адноўленыя прыбіральні, зь якіх адна з пырстам (душам), нямала дзе новыя электрычныя прыводы й вадзяныя, ды сьцёкавыя трубы.

Цяжка ўжо ўспомніць усіх парахвіянаў, што далажыліся іхнай бясплатнай працай да гэтых асягненьняў, але нельга не згадаць зь вялікай удзячнасьцяй тых, што зрабілі ў гэтай справе апошнім часам найболей, а гэта др. Расьціслава Гарошка й сп. Мікалая Вашкевіча, ды а. Ігара Якуніна.

Гэтыя людзі ахвяравалі на нашае супольнае дабро нятолькі іхную працу, але ў значной меры й патрэбныя матарыялы, ці, як др. Гарошка яшчэ й каштоўнае кухоннае абсталяваньне, а а. Ігар, замест каб атрымоўваць плату за сьвятарскую службу, плоціць парахвіі за гэты абавязак будаўніцкай працай.

Высака цэнячы ўсё віднае, што зроблена нашымі майстрамі, нельга абыйсьці моўчкі й часта забываную, але неабходную для добрага выгляду ў сярэдзіне будынку, бясконцую працу прыбіраньня, мыцьця й парадкаваньня нашымі жанчынамі, за якую ім глыбокая ўдзячнасьць.

Дзякуючы апісаным тут супольным і ахвярным намаганьням нашых парахвіянаў і парахвіянак парахвіяльная заля прыйшла да спадобы й нашым суседам - амэрыканскім арганізацыям, што пачалі наймаць яе на іхныя зборкі ды ўрачыстасьці, падмацоўваючы гэтым парахвіяльную касу.

Апошня й зарганізаванае беларускае грамадзтва "адкрыла" нашую залю, ды пачало ладзіць у ёй большыя ўрачыстасьці, але на тое, што ў ёй рабілася даўней ніяк ня можа адважыцца, ці здабыцца.

А было раней, што ў гэтай залі зьбіраліся сходы арганізацыяў, практыкаваліся хоры й танцаўныя гурткі, працавала беларуская школка.

Сёньня амаль нічога гэтага няма, усё беларускае грамадзкае жыцьцё сканцэнтраванае й накіраванае на палітычныя справы й мэты.

Дзіўная, аднак, гэтая палітыка - замест каб ісьці да нацыянальных мэтаў упоруч із сваёю Царквою, да вернікаў якое, хай і намінальна, належыць большасьць беларускае эміграцыі, а ў будучыні будзе належаць і большасьць Беларускага народу, сярод нашага палітычнага й грамадзкага актыву заўважваецца няпрыхаванае ад яе адцураньне.

Затое крытыкі пад адрысам Царквы й ейнага духавенства ніхто ня цураецца - і Божыя службы ў ёй не даволі беларусізаваныя, і духавенства не на адпаведным ўзроўні, і ці мала-што яшчэ ня так.

Але прыходзіць на адправы ды стаць удзельнікам ды выканальнікам іхнае поўнае беларусізацыі ахвотнікаў няма, і выходзіць, што нехта павінен тую беларусізацыю рабіць для пабожных вернікаў старэйшага веку, што трымаюцца звыклай змалку традыцыі й на чыіх шчырых ахвярах трымаецца царква.

Лёгка таксама знаходзіць і пераболышваць заганы нашых духаўнікоў, ды бачыць праведнікаў пад нянашымі купаламі, замест таго, каб успомніць, што чужыя "праведнікі" сыцеюць на добрай заплаце, а наш сьвятар зарабляе на жыцьцё працай рук і набівае мазалі рэмантуючы наш царкоўны будынак.

Таму даволі займацца ўлюбаваным беларускім "гобі" - рыцьцём пад роднай Царквою й вакол яе, а пара згуртавацца вакол гэтага Божага Дару, ды выкарыстаць яго, як на нашае духовае дабро, так і на карысьць нашае грамады, ды нашага народу.

А карысьць для нашае грамады ў Нью Ерку з нашага царкоўнага будынку можа быць вялізарная, толькі трэба, каб у ім закіпела нашая культурная праца, каб былі лекцыі, практыкаваліся й выступалі хор, ды танцаўны гурток, гудзелі вечарыны.

Дык даволі трызьніць, што злажыўшыся па даляру можна будзе купіць і ўтрымаць грамадзкі будынак у Мангатане, ды там ужо пачаць дзейнічаць.

Замест таго злажэмся крыху большымі сумамі й ахвярнай працай, ды скончма аднаўленьне нашае, за гады нязгоды недагледжанае царквы, каб ейны стан і выгляд прыйшоў Богу на ўспадобу, грамадзе ў дагоду, ды кожнаму перад вачмі на аздобу.

СЬВ. ПАМ.



## РАІСА ГАЛЯК

З РОДУ ЛУКАШЭВІЧ

НАР. 15 КРАСАВІКА 1912-га ГОДУ Ў ВІЛЬНІ
ВУЧАНІЦА ВІЛЕНСКАЕ БЕЛАРУСКАЕ ГІМНАЗЫІ,
СТУДЭНТКА ВІЛЕНСКАГА ЎНІВЭРСЫТЭТУ,
СЯБРОЎКА БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА САЮЗУ,
НЕПАХІСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПАТРЫЁТКА
Й ВЕРНІЦА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ
ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ
АДЫЙШЛА ДА БОЖАГА ПАСАДУ
Ў СЬНЕЖНІ 2003-га ГОДУ Ў FERNANDINA
BEACH У ФЛАРЫДЗЕ.

## ПАДТРЫМАЙМА БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ!

Усе мы, ці нам добра ў краіне, дзе знайшлі прытулак, ці ня вельмі, тужым па нашай роднай Беларусі й радыя кожнай вестачцы зь яе, ды цешымся з сустрэчы з кожным земляком, з гуку роднае мовы й песьні, із усяго, што нам нагадвае Бацькаўшчыну.

Тым з нас, што аселі ў Нью Ёрку ды ваколіцы, аднак, лягчэй, бо можна суцішыць гэтую тугу наведваючы куточак Роднага Краю на чужыне - наш Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

У гэтым будынку можна нятолькі памаліцца, але й, як удома, пабыць між сваймі людзьмі й пагутарыць зь імі, а ў сьвята сесьці разам за стол да пачастунку ды пачуць, ці засьпяваць родную песьню.

Таму кожнаму з нас на карысьць, каб будынак надоўга заставаўся ў беларускіх руках, каб у ім зьбіралася што-раз большая нашая грамада, каб там што-раз лепш і багацей выяўлялася нашая культура.

З гэтай мэтай Парахвіяльная Рада й Сястрынства ладзіць сьвяткаваньні й застольлі, а раз у год, у канцы верасьня, і большую ўрачыстасьць - Беларускі Фэстываль, калі мы радуем нашыя душы роднай песьняй і ласуемся нашымі смачнымі стравамі самыя, ды знаёмім зь імі амэрыканцаў.

Дык, не пашкадуйма крыху больш даляраў на нячасты выдатак і падтрымайма наш Беларускі Фэстываль, у нядзелю, 26-га верасьня 2004-га году!

## ВІТАЕМ З СУЖЭНСТВАМ

У пятніцу, 24-га лістапада 2003-га г. у нашым Саборы адбылося вянчэньне сп. **Генадзя Галалоба** йз сп-няй **Тацьцянай Атаман.**

Сьв. Тайніцу вянчэньня выканаў а. Ігар Якунін з прыслужбай а. ерадыякана Васіля Касьцюка.

Жадаем новай пары сужэнцаў Божага прыяньня на доўгі век у сямейным шчасьці й добрым здароўі, ды пашане ад людзей.

НАВЕДВАЙЦЕ СЕЦІЎНУЮ МЕСЬЦІНУ БАПЦ
WWW.belaoc.com
ДЫ АДГУКАЙЦЕСЯ ЭЛЕКТРОННАЙ ПОШТАЙ
belautoc@yahoo.com

ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ
САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА
КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 10-й Г. РАНІЦЫ.
СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ АБВЕШЧАНА ЙНАКШ,
УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ.
ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ
МОЖНА ПАЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, ЦІ ПАДАЦЬ
УСПОМНЫЯ ЛІСТКІ ЗА ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ,
АБО СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ.
АДРЫС: 401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217
(РОГ BOND STREET)
TEL./FAX: N.Y. (718) 875-0595, N.J. (732) 868-1589
ДАЕЗД ПАДЗЕМКАЙ ЦЯГНІКАМІ "A", "C", "G"
ДА СПЫНКУ HOYT-SCHERMERHORN,

ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА Й СЯСТРЫНСТВА
КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ
ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ
ЗАКЛІКАЮЦЬ ВАС
ПАКЛАНІЦЦА СЬВ. ГОСПАДАВАМУ КРЫЖУ
НА ЎРАЧЫСТАЙ БОЖАЙ СЛУЖБЕ НАПЯРЭДАДНІ

## УЗЬДЗЬВІЖАНЬНЯ

У НЯДЗЕЛЮ, 26-га ВЕРАСЬНЯ 2004 г.
ДЫ ПАГУЛЯЦЬ ПАСЬЛЯ АДПРАВАЎ НА

## БЕЛАРУСКІМ ФЭСТЫВАЛІ

Ў ПАРАХВІЯЛЬНАЙ ЗАЛІ Й ПЕРАД ЦАРКВОЮ.
ПАДЧАС ФЭСТЫВАЛЮ БУДУЦЬ ВЫСТУПЫ
ВЫКАНАЛЬНІКАЎ БЕЛАРУСКІХ ПЕСЬНЯЎ,
МОЖНА БУДЗЕ ПАЛАСАВАЦЦА НАШЫМІ
СМАЧНЫМІ СТРАВАМІ Й ПАТАНЦАВАЦЬ.
УВАХОД НА ФЭСТЫВАЛЬ $ 10.00
ПЛАТА ЗА СТРАВЫ АСОБНА.
ПАДЧАС НАШАГА ФЭСТЫВАЛЮ НА ВУЛІЦЫ
ПЕРАД ЦАРКВОЮ БУДЗЕ АДБЫВАЦЦА
МІЖНАРОДНЫ КІРМАШ "ATLANTIC ANTIC".

ПАВАЖАНЫЯ ПАРАХВІЯНЕ!
МІНУЛА ЎЖО ПАЛОВА 2004-га ГОДУ, А НЯ ЎСЕ ВЫ
ЗАПЛАЦІЛІ $ 50.00 ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СКЛАДКІ.
БУДЗЬЦЕ ЛАСКАВЫЯ ЗАПЛАЦІЦЬ ГЭТЫЯ ГРОШЫ
ЯКНАЙХУТЧЭЙ, КАБ ПАРАХВІЯ ЗМАГЛА
РАЗЬЛІЧЫЦЦА ЗА НЕАБХОДНЫЯ ВЫДАТКІ.
СКЛАДКІ ПРЫЙМАЕ СКАРБНІК ПАРАХВІЯЛЬНАЕ
РАДЫ СП. ЮРЫ ЧАРНЫШОЎ, АБО СТАРШЫНЯ
РАДЫ СП. РАСЬЦІСЛАЎ ГАРОШКА.